# Беларуская КРЫНІЦА

Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта

Кошт — па дамоўленасьці | Выходзіць з кастрычніка 1917 г. Адноўлена ў 1991 г. | ЛІСТАПАД 1993 Г. | № 2(778)


Уладзімір ПЯЦЮКЕВІЧ

## НАШ СЬЦЯГ

Бел-чырвона-белы наш адвечны сьцяг
Зь небыцьця, як птушка з выраю, вярнуўся
Дабрыні на радасьць, сіле злой на страх,
На дзяржаўны гонар Маці-Беларусі.

На руках адданых, мужных змагароў
Вырваўся ён зь пекла зьдзеку і прымусу,
Запаліў у сэрцах Памяць і Любоў,
Асьвяціў дарогу Волі беларусам.

Пазіраю ў неба — ясьніца яно —
Гэта сьцяг наш родны там лунае горда.
Пасьвятлела ў хаце змрочнае акно,
Адступае цемра ад майго народа.

## Да юбілею вызвольнага паўстаньня

Адбылося пасяджэньне Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па сьвяткаваньні ў Беларусі 200-ых угодкаў вызвольнага паўстаньня 1794 года пад агульным кіраўніцтвам Тадэвуша Касьцюшкі. У Беларусі паўстанцкія сілы ўзначальваў 33-гадовы генерал і паэт Якуб Ясінскі, паўстанцы змагаліся пад дэвізам: вольнасьць, роўнасьць, незалежнасьць. Паўстаньне ахапіла амаль усе абшары беларускіх земляў, бітвы з захопніцкімі расейскімі войскамі адбыліся пры вызваленьні Вільні, на Ашмяншчыне, паблізу Іўя, Солаў, Дзівіна, Любані і ў іншых мясьцінах.

На пасяджэньні камітэта быў абмеркаваны шэраг юбілейных мерапрыемстваў, якія будуць праведзены ў красавіку будучага года.

Ул. інф.

## Зварот да беларускіх прадпрымальнікаў

Шаноўныя спадары!

Калі Вы неабыякавыя да сучаснага стану й будучыні Беларусі, калі Вы ня прагнеце прыбытку любой цаной, а дамагаецеся гэтага цывілізаваным шляхам, калі хрысьціянскія запаведзі не зьяўляюцца для Вас пустым гукам, калі Вы жадаеце мець справу з прыстойнымі людзьмі, у тым ліку з замежнымі партнёрамі, і разьлічваць на эканамічную й сацыяльную падтрымку й абарону, запрашаем Вас узяць удзел у стварэньні грамадзкай арганізацыі хрысьціянскіх прадпрымальнікаў, якая аб'яднае людзей, што кіруюцца ў сваім жыцьці хрысьціянскай мараллю, для духоўнага, культурнага й эканамічнага адраджэньня Бацькаўшчыны і ў рэшце рэшт для росквіту асобы ў гармоніі з навакольным асяродзьдзем.

У эканамічнай сфэры гэтая арганізацыя дапаможа сваім сябрам у станаўленьні сваёй справы, наладжваньні дзелавых сувязяў у нашай краіне й за мяжой, у атрыманьні камэрцыйнай інфармацыі і крэдытаў у хрысьціянскім таварыстве ўзаемнага крэдыту.

У палітычнай сфэры арганізацыя будзе адстойваць правы сваіх сяброў перад заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладамі і створыць сістэму інфармацыі аб палітычна-эканамічным становішчы ў нашай краіне й навогул у сьвеце.

У сацыяльнай сфэры арганізацыя дапаможа ў мэдычным абслугоўваньні прадпрымальнікаў да іхніх сем'яў праз створаную сістэму мэдычнага й сацыяльнага страхаваньня, у навучаньні й павышэньні кваліфікацыі і вырашэньні праблемаў побыту ды адпачынку.

У сваёй дзейнасьці арганізацыя будзе кіравацца статутам і мець рахункі ў банкаўскіх установах, пячаткі ды іншую атрыбутыку.

Дапамажы нам Божа!

*З пытаньнямі зьвяртайцеся з 9 да 21 гадзіны па тэл. (0172) 63-70-36.*
*Лісты дасылайце на адрас: 220065. Менск-65. А/с 24. Аргкамітэт.*



## На службе Богу і Бацькаўшчыне

Сорак гадоў нясе Боскае слова людзям у вішняўскім касьцёле на Валожыншчыне ксёндз Уладыслаў ЧАРНЯЎСКІ. Выхаванец школы айцоў марыянаў у Друі, пасьвечаны ў душпастыры ў 1944 годзе, ён быў ксяндзом спачатку ў Літве, а з 1953 года — сярод блізкіх яму людзей роднага краю.

Як руплівы сейбіт, ён шчодрай рукой сее ў людзкіх душах зярняты веры, дабрыні, міласэрнасьці, сумленнасьці, спагады — усё тое, што ёсьць у запаведзях Боскіх. Сваім словам на роднай мове абуджае ў людзей веру ў лепшую долю Бацькаўшчыны-Беларусі.

Плёнам ягонай творчай працы зьяўляецца і цудоўны пераклад на беларускую мову «Парадку сьвятой імшы з народам для беларусаў Рымскага абраду», тэкст якога зацьверджаны Апостальскай Сталіцай і выдадзены асобнай кніжкай у 1988 годзе з пазнакай «Лондан-Вішнева».

Фота А. ЗАЛЕСКАГА.

## ◆ З даўных крыніц

### ВАЙНА СА СЬВЯТАМ БОЖАГА НАРАДЖЭНЬНЯ

**У Расеі пашырэньне ўсякімі нягоднымі спосабамі бязбожнасьці, як ведама, не перастае. Цяпер жа, калі зьбліжаюцца Каляды, камуністы працу сваю ў кірунку бязбожнасьці ўзмацнілі яшчэ больш. На першы і другі дзень Каляд у Маскве і Ленінградзе ў тэатрах будуць адбывацца процірэлігійныя прадстаўленньні, на якіх работнікі і ўрадоўцы мусяць быць абавязкова.**

### АРЫШТЫ Ў МЕНСКУ

**У Савецкай Беларусі паход супраць беларусаў некамуністаў ідзе поўнай парай. Чалавек нешта 17 самых выбітных беларускіх дзеячаў на полі палітыкі, навукі, культуры, пісьментсва пасадзілі камуністы ў астрог і рыхтуюць для іх цяжкія прысуды. Першы пасьля Фр. Багушэвіча пачынальнік беларускага адраджэньня праф. Б. Эпімах-Шыпіла з Мінска сасланы ў Ленінград і ў старасьці гадоў пакінуты без спосабаў да жыцьця. Ох, жорсткая рука «дабрадзеяў»! Дай. Божа, каб народ гэта ўсё вытрымаў..**

**Былыя белерускія паслы Мятла, Рак-Міхалоўскі і іншыя, што ўцяклі да бальшавікоў, як пішуць газэты, дужа расхвальваюць тамтэйшыя парадкі. Ну што ж, на чыіх саначках едуць — таму і песенькі пяюць.**

### ПРАЗ ПЯЦЬ ГАДОЎ НЯ БУДЗЕ РЭЛІГІІ

**Камуністы, як ведама, праз пяць гадоў думаюць у Расеі і сярод падлеглых ім народаў зрабіць выключна камуністычную (супольную) гаспадарку. Такжа за пяць гадоў думаюць яны выкараніць рэлігію. Ці ўдасца? Адказ просты: ня даў Бог сьвіньні рог.**

*(«Хрысьціянская думка» № 1 і 2, 1931 г.).*



*Кафэдральны касьцёл у Менску (будзем спадзявацца, што зноў паўстане ў гэткім выглядзе).*

## Маўчаньне — знак згоды?

У размове з удзельніцамі менскага камуністычнага падполля ў гады акупацыі М. Осіпавай і А. Мазанік прэм'ер В. Кебіч, абураны зьместам кнігі Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», сказаў:

— Как можно было такое издавать? Мы этот вопрос уже обсуждали в правительстве, будем бороться против этого, к уголовной ответственности привлекать.

Думаецца, пытаньне «как можно такое издавать?» прэм'ер мог бы скіраваць у першую чаргу да такіх выданьняў, як «Мы и время», «Политика, позиция, прогноз», «Наш компас» і шмат якіх іншых, што як грыбы-паганкі расплядзіліся на нашай зямлі. Са старонак гэтых выданьняў сыплюцца заклікі да ліквідацыі незалежнасьці Беларусі, да далучэньня яе да Расеі, да аднаўленьня былога СССР, шчодра паліваецца брудам, паклёпам сё беларускае. У любой іншай краіне гэта кваліфікавалася б як антыдзяржаўныя дзеяньні.

Не, таварыш прэм'ер наўрад ці стане каго «к уголовной ответственности привлекать», бо тады яму давялося б пачынаць з антыбеларускіх газэтах, брашурак, улётак і са свайго кампартыйнага акружэньня ва ўрадзе. А так ён лагодна прамоўчвае аб іх.

## Абяцаньні пакут і бядотаў

27 жніўня 1920 году Выканком Камуністычнага Інтэрнацыяналу, які, нібы маэстра лялькавага тэатра, маніпуляваў дзеяньнямі камуністаў ва ўсім сьвеце, накіраваў з Масквы загадны ліст італьянскім камуністам ад прысьпяшэньні імі камуністычнага захопу ўлады ў Італіі. У тым лісьце, у прыватнасьці, гаварылася: «Совершенно ясно, что нигде в мире победа пролетариата теперь невозможна **без страданий и лишений для рабочих** (выдзелена рэд.)... Если революция не пойдет быстро и в других странах, возможно, что и итальянскому пролетариату придется пройти через такой же тяжелый и крестный путь, каким идет пролетариат России со времени Великой Октябрьской революции 1917 года... Рабочий класс Италии изумительно единодушен — итальянский пролетариат целиком стоит за революцию... Сельские рабочие — за революцию. Большая часть крестьян — за революцию... Приближаются решающие бои. Италия будет советской страной... Да здравствует Коммунистическая партия Италии! Да здравствует Итальянская совестская республика!»

Вось так! І хоць маскоўскі Камінтэрн сьцьвярджаў, што ўсе італьянцы «за революцию», яны, відаць, не спакусіліся абяцаньнямі «страданий и лишений» для іх, не захацелі чагосьці падобнага да 1917 году ў Расеі. Італія ня стала краінаю савецка-бальшавіцкае дыктатуры.

# ПРАЗ ПРЫЗМУ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДЭМАКРАТЫІ

Што можа вывесьці Беларусь з крызісу? Якую арыентацыю павінна узяць грамадзтва сярод многіх, часта супярэчлівых прапаноў? Як бачыцца будучыня Беларусі і яе грамадзтва нацыянальнымі дэмакратамі? На гэтыя пытаньні спрабуе даць адказ у сваіх нататках кандыдат фізіка-матэматычных навук Анатоль АСТАПЕНКА.

**Ідзе працэс пераходу ад камуністычнага таталітарнага рэжыму да дэмакратычнага грамадзтва. У розных краінах усталяваньне дэмакратычнага ладу адбывалася па-рознаму, у розных варунках. Дэмакратыя ЗША прайшла доўгі шлях разьвіцьця, пакуль там усталяваўся цяперашні лад і цяперашні ўзровень жыцьця. Была там і інфляцыя, і крызіс, і беспрацоўе... Але там не было камунізму. Не было 75-гадовага панаваньня самага жудаснага з усіх рэжымаў, што існавалі на зямлі — камуністычнага, які і цяпер ня скончыўся у рэспубліках былога СССР. І асабліва моцныя пазіцыі камунізму ў Беларусі. Самае трагічнае, што ў нас адбылося, дык гэта генныя зьмены. Тры пакаленьні людзей пасьля бальшавіцкага перавароту нясьць у сабе ўжо спадчыннасьць камуністычнага сатанізму. І калі ў дзяржавах Прыбалтыкі камуністы не пасьпелі здэградаваць карэнныя нацыі, дык у Беларусі яны амаль дасягнулі «посьеху». У гэтым галоўная трагедыя беларусаў.**

**Існуе такі закон: калі рэлігія, вера ў Бога ратуе душу чалавека, дык нацыянальнае пачуцьцё зьяўляецца ратаўнікам увяго грамадзтва. Таму я лічу, што кожны зь беларусаў павінен прайсьці шлях ад посткамуністычнага чалавека-манкурта да чалавека, галоўнымі рысамі якога зьяўляецца ўсьведамленьне Бога і Нацыі. Калі ня будзе гэтага, дык грамадзтва такіх людзей непазьбежна сканае.**

**Гісторыя сьведчыць, што толькі нацыянальная ідэя здольная быць той сілай, якая зможа вывесьці грамадзтва на высокі ўзровень дабрабыту. Гэтак было пасьля Другой сусьветнай вайны ў Нямеччыне, калі Людвіг Эркард выводзіў з крызісу эканоміку дзяржавы праз яе нацыянальную сутнасьць. Гэтак было ў Японіі, якая за вельмі кароткі час ператварылася з феадальнай краіны ў высока індустрыяльную дзяржаву. Гэты пералік можна працягваць на многіх прыкладах.**

**Нягледзячы на крытычнае становішча беларускай нацыі, ня страчана вера ў адраджэньне нашага народу, тым больш, што адна з важнейшых нацыянальных рысаў беларуса — ягоная працавітасць — яшчэ ня зьнікла. Ня нашая віна, што мы ня ведаем свае гісторыі, ня нашая віна, што мова беларуская даведзена да заняпаду. Дзесяцігодзьдзямі камуністы вынішчалі ў нас пачуцьцё нацыянальнае годнасьці. І свае мэты амаль дасягнулі. Але глыбінныя народныя традыцыі ім задушыць не ўдалося. Яны жывуць і гэта надае аптымізм у дасягненьні галоўнае мэты нацыянальнае дэмакратыі — адраджэньня сапраўднага нацыянальна сьвядомага беларуса, асобы ў нацыянальнай супольнасьці.**

**Але выкрышталізавацца гэтай супольнасьці нацыянальна сьвядомых людзей магчыма толькі тады, калі нейкая іншая нацыянальная супольнасьць ня будзе дамінаваць над ёю, душыць яе, хоць яна рана ці позна ўсё ж выйдзе на цывілізаваны шлях свабоды, можа, праз барацьбу і пакуты. Заходняя Эўропа прайшла ўвесь гэты шлях і выйшла на такі ўзровень, калі магчымыя кантакты народаў на любым узроўні, калі межы паміж дзяржавамі ўжо не істотныя. І вось у іх сапраўды ўтварылася наддзяржаўная эўрапейская супольнасьць. Але магчымым гэта стала толькі тады, калі кожная з нацыяў, што ўваходзяць у гэтую супольнасьць, стала высокаразьвітай квітнеючай нацыяй з багатай культурай, высокім пачуцьцём нацыянальнай годнасьці і, нарэшце. гэта дзяржавы з высокім эканамічным патэнцыялам.**

**Мы, беларусы, стаім толькі на пачатку гэтага шляху. Да еднасьці праз крышталізацыю асабістасьцяў — вось філасофская формула працэсу. Таму цяперашні пачатак нашага шляху ў будучыню — гэта ня просты шлях да такога стану, калі ўжо можна «людзьмі звацца». Гэта шлях паступовага працэсу інтэграцыі з таксама ўжо сталымі народамі, якім не пагражае небясьпека растварыцца сярод больш сталых народаў.**

**Часта гавораць, што найпершай каштоўнасьцю дэмакратыі зьяўляецца свабода асобы чалавека і таму ніякія нацыянальныя абмежаванні не павінны перашкаджаць гэтаму. Лібералы аргументуюць гэта тым, што імкненьне да свабоды даецца чалавеку ад нараджэньня і стан свабоды — найвялікшы набытак цывілізацыі. Сярод дэмакратаў мінулага і многіх сучасных дэмакратаў, асабліва расейцаў, распаўсюджана думка, што ўсялякія размовы аб нацыянальных праблемах, нацыянальным адраджэньні толькі тармозяць натуральны шлях разьвіцьця чалавека.**

**А ці так гэта? Ці зьяўляецца нацыянальнасьць другасным панясьцем у лесьвіцы эвалюцыі чалавецтва? Для адказу на гэтае пытаньне неабходна зьвярнуцца да аналізу самае сутнасьці такой катэгорыі, як асоба чалавека, да разуменьня сутнасьці розьніцы паміж чалавекам і жывёлай. І галоўнае — неабходна добра ўсьвядоміць эвалюцыю чалавека, якой яна мусіць быць у Боскім тварэньні.**

**Гісторыя сьведчыць нам пра наступнае. У далёкай мінуласьці мы ня знойдзем літаратурных сьведчаньняў аб нацыянальных праблемах. Ня толькі нацыянальныя адметнасьці, а нават расавыя не хвалявалі старажытных людзей. Але не ўласьцівыя грамадзтвам мінулага дэмакратыя ды гуманізм. Таталітарныя рэжымы, жорсткі падзел на касты мы назіраем на прыкладах старажытнага Эгіпту, антычнага Рыму, Індыі... Толькі з распадам імперый паяўляюцца новыя якасьці ў чалавечым грамадзтве, узьнікае такая катэгорыя, як свабода чалавека і разам з павялічэньнем ролі асобы ўзьнікае і яе адметнасьць — нацыянальная прыналежнасьць. Нацыянальнасць — адзін з галоўнейшых атрыбутаў асобы чалавека. І прыярытэт асобы чалавека, яе правоў — гэта і прыярытэт нацыянальнага над інтэрнацыянальным. Таму й сапраўднае дэмакратычнае грамадства ўзьнікае толькі праз разьвіцьце асобы чалавека, а праз яе — нацыянальнасьці.**

**Страціць нацыянальнае аблічча — гэта азначае страціць сябе, дэградаваць, стаць манкуртам. Нацыянальнае — вышэйшая каштоўнасьць чалавека ў сучасную эпоху. Не зьліцьцё, а разьвіцьцё нацый — вось у чым сутнасьць эвалюцыі чалавецтва апошніх трох стагодзьдзяў.**

**На першы погляд ЗША — адзіная дэмакратычная дзяржава, якая дасягнула высокай ступені дабрабыту не праз разьвіцьцё нацыянальных асаблівасьцяў, аднак у гэтым і бяда амэрыканцаў. Бяда ў адсутнасьці высокай духоўнай культуры ў амэрыканскім грамадзтве ў мінулыя часы. Але ўжо ў нашым стагодзьдзі мы бачым іншае — новую, маладую нацыю, амэрыканскую. Зьяднаную, прагрэсіўную, патрыятычную.**

**Шлях жа нацыянальных дзяржаў з моцнымі старадаўнімі традыцыямі аказваецца нашмат больш перспектыўным, чымсьці амэрыканскі. Яскравым прыкладам таму можа быць Японія. Пераход ад таталітарнага рэжыму да дэмакратычнага быў там вельмі ўражальны.**

**Вяртаючыся да праблемаў нашай шматпакутнай Беларусі, хацелася б падкрэсьліць яшчэ адно. Быць беларусам азначае ня толькі валоданьне беларускай мовай. Гэта азначае, што трэба яшчэ ўсьведамляць сябе беларусам у гістарычным і геапалітычным ракурсе. Першае азначае веданьне гістарычнай праўды пра Беларусь, усьведамленьне свае беларускае ментальнасьці, якая розьніцца ад, напрыклад, украінскай ці расейскай. Усьведамленьне сябе не як нейкага там малодшага, менш здольнага брата кагосьці «старэйшага», «вялікага», «дабразычлівага». Усьведамленьне сябе эўрапейцамі часоў Скарыны і Гусоўскага і заняволенымі чужой нацыяй у канцы XVIII стагодзьзя і аж да нышых дзён — вось якой павінна быць нашая ментальнасьць.**

**І, другое, геапалітычны фактар. Для беларусаў ён, бадай, адзінае, што засталося праз вякі амаль нязьменным. На этнічных і гістарычных землях Беларусі жыве, як і тысячу гадоў назад. беларускі народ. Тут і толькі тут ён адзіны гаспадар, і задача нацыянальнай дэмакратыі, як і ўсіх сьвядомых беларусаў, давесьці гэта да сьвядомасьці кожнага беларуса. Трэба, каб кожны беларус ведаў, што ўсе этнічныя групы, якія жывуць побач з намі, толькі госьці ў нас і наша задача — заўжды быць гасьціннымі і дабразычлівымі да іх, але ні ў якім разе ня трэба трапляць у залежнасьць ад гасьцей. Гонар нацыі — вось атрыбут нацыянальнай незалежнасьці.**

**Анатоль АСТАПЕНКА.**

# «Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі»

«Ці жонка звонка? Ці дзеткі гудуць?» — пытаў у нашай ваколіцы сусед суседа і не здагадваўся нават, што гэтым пытаньнем перакладае прозу штодзённага жыцьця на музыку. Калі ў хаце згук ды зык, калі сыздалі чуць як усё там пяе — значыцца справы ідуць на добры лад.

А каля гэтай самай хаты сядзелі вясной на чарэшні салаўі і жартавалі па-беларуску, хаця ім здавалася, што яны пяюць:

— Паскроб, паскроб!
— Дзе, дзе, дзе?
— Ту, ту, ту!
— Дзе, дзе, дзе?
— Ту, ту, ту!
— Ць, ць, ць...
— А-а...

Ды не толькі жывыя творы гаварылі на нашай каханай Беларусі. Стыхіі таксама. Беларуская вада часам сьмяецца, часам плача, нешта шэпча, а часам маўчыць. Гэта таксама гук.

«А ў Бэтлеем ціхая вада...» — пяюць Палешукі ў Калядны Вечар. Словы калядкі вельмі спадабаліся нашаму паэту Канстантаму Ільдэфонсу Галчынскаму. Ён запытаў мяне: «Слухай, Земак, ці магу я ўзяць гэтае ў све вершы?». «Бяры, — адказаў я. — Беларусы людзі добрыя. Не шкадавалі песьняў Міцкевічу, і табе не пашкадуюць». Такім спосабам беларуская «ціхая вада» трапіла ў паэму Галчынскага «Ніобэ».

Як ні кінь, сьпеў і мова не жывуць на Беларусі паасобна. Яны заўсёды разам.

У цяжкія часіны вайны я жыў некалькі год у Фэліксове, у сям'і майго сябра Уладзіміра Мальца. Я працаваў зь ім у полі, памагаў будаваць новую хату, хадзіў на вечаркі, на вясельлі, на талокі, на хрысьціны і на хаўтуры, дужаўся з хлопцамі на ігрышчах, танцаваў з паненкамі на вечарынах — а потым запісваў у сшытак фэліксаўскія песьні.

Зразумела, я не ведаў, ці будзе з гэтага калісьці нейкі спажытак і ці здалею ў будучыні выдрукаваць свой зборнік. Аднак ужо тады мне хацелася дасягнуць нешта іншае ад звычайных этнаграфічных запісак. Я імкнуўся намаляваць музычны партрэт аднае вёскі, паказаць сваеаблічну «сьпеўную бібліятэку», з каторай штодзень карысталі жыхары Фэліксова. Міхал Фэдэроўскі ў прадмове да свае помнікавае працы «Люд Бялорускі» напісаў:

«Том адзін падарыць будучай беларускай інтэлігенцыі. Гэта скарбы нашых бацькоў, гэта найбагатшая спадчына, і казкі, і песьні, і байкі наймілейшых дзядоў. Яны былі ўтаптаныя ў друз, нібы залатыя зярняты, я іх дастаў, а вы пасейце, каб вашыя будучыя пакаленьні сабралі багаты плён».

Я надта добра ведаю, што з звычайны аматар, але беларуская песьня мне таксама дарагая і блізкая як і вялікаму вучонаму. І калі мне ўдалося ўратаваць ад забыцьця хоць горстачку таго скарбу, гэта будзе для мяне ўзнагародай.

Я склаў фэліксаўскія песьні найлепш як толькі ўмеў і цяпер аддаю іх у рукі чытачоў. Як кажуць, грэх у мех, а ратунак наверх. Даруйце аўтару ўсе яго памылкі.

Гэта кніга — для людзей і для мяне самога. Я хачу верыць, што чорнае трупяхлё зьдзеку перастане ўрэшце жывое цела беларускае мовы і што новае пакаленьне зачне больш чым раней цікавіцца песьнямі свае бацькаўшчыны. І можа пойдзе на пошукі слаўнага сяла Фэліксова. Вось кірунак — Лідчына, каля Жалудка.

Я і сам буду заглядваць у свой зборнік, услухоўвацца ў словы і ноты, каб яшчэ раз убачыць Беларусь, каторую я пакахаў з маленства, гэту цудоўную старонку, сумную і вясёлую, што зьзяе, грэе і пяе быццам яе нехта гукамі апырскаў.

Земовіт ФЭДЭЦКІ.

Гэткая вось лірычна-прачулая прадмова да зборніка народных песень з нотамі «Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі, або што сьпявалі ў Фэліксаве». Песень з аднае толькі вёскі (цяпер яна ў Лідзкім раёне). У гэтым зборніку, выдадзеным летась у Варшаве на беларускай мове Варшаўскім аддзелам БГКТ, іх 72. 42 зь іх пан Земавіт запісаў ад свайго сябра Уладзіміра Мальца, якому тады было 31 год. А многія песьні запісаны ад 17—19-гадовых хлопцаў і дзяўчат.

І якія ж яны былі сьпеўныя, духоўна багатыя, нашы вёскі яшчэ паўстагодзьвдзя назад! І якія ж яны сталі глухія, нямыя, бяспамятныя цяпер, пад узьдзеяньнем «сацыялістычнай цывілізацыі»! Тое, што ствараласе народам на працягу стагодзьдзяў, згублена, забыта дзе за семдзесят гадоў, а дзе і за пяцьдзесят. Не свая самабытная песьня чуецца цяпер на вуліцах вёсак, а мацюганьне і п'яная разгульнасьць, прынесеныя дзікім ветрам на нашу зямлю.




Беларуская крыніца
Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта.
Заснавальнік і выдаўца Пятро СІЛКА.
Галоўны рэдактар Алесь ТРАЯНОЎСКІ.

Адрас для карэспандэнцыі: 220065. г. Менск-65, абан. скрынка 24.

Аўтары адказваюць за дакладнасьць фактаў, цытат, лічбаў, дат, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, што паведамляецца ў матэрыялах. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пункту гледжаньня аўтара. Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца і не высылаюцца назад аўтарам.

*Паліграфічная фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Якуба Коласа,*
Падпісана да друку 17.XI.93 г.
Наклад 1000 паасобнікаў.
Зак. № 2273.